Мілыя жанчыны, віншуем вас з 8 Сакавіка!



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

8 сакавіка 2019 года №10 (1245) 18+











# Караед дабраўся да Павілля: шкоднік знішчае лес сотнямі гектараў

**Беларускім лясам пагражае катастрофа, калі ляснічыя не змогуць адолець караедаў. Як іх перамагчы, абмяркоўвалі ўсе лясніцтвы Міншчыны ў Маладзечне.**

старонка 2

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



## Самыя папулярныя і рэдкія жаночыя імёны за апошнія пяць год

старонка 17

## Як маладзечанцаў частавалі кавай барыста на вазках

старонка 21

ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



ТЭМА НУМАРА

# Караед дабраўся да Павілля: шкоднік знішчае лес сотнямі гектараў

**Беларускім лясам пагражае катастрофа, калі лясныя гаспадаркі не змогуць адолець караедаў. Як іх перамагчы, абмяркоўвалі ўсе ляснiцтвы Міншчыны ў Маладзечне.**

Вялізная небяспека для беларускіх лясоў прасоўваецца з поўдня на поўнач. Яна ўжо закранула лясы Валожыншчыны, Маладзечаншчыны і Вілейшчыны і рушыць вышэй.

Як і для чаго ратавацца ад каранёвай губкі і верхавінных жукоў-караедаў, абмяркоўвалі на абласным семінары для работнікаў лясной гаспадаркі 28 лютага на Маладзечаншчыне.

### Чаму гэта праблема №1 для беларускага лесу

Загадчык кафедры абароны лесу Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта **Вячаслаў Звягінцаў** патлумачыў небяспеку ад караеда:

– Цяпер у Беларусі надзвычайная сітуацыя са станам лясоў. Упершыню ў гісторыі айчыннага лесаводства мы сустракаемся з паталогіяй такога маштабу. Палова ўсяго нарыхтаванага лесу ў краіне летась – лес, што загінуў з-за караеда. Яго можна выкарыстоўваць, але якасць такой драўніны істотна зніжаецца.

> **Гінуць яшчэ няспелыя лясы, памеры драўніны з якіх не самыя лепшыя. Некантраляваная гібель лясоў прыводзіць да суцэльных высечак. Мы губляем эканоміку, таму што драўніна не дасягнула ўзроўню спеласці.**

Незадаволенае і мясцовае насельніцтва, калі высякаюць вялікія плошчы. Тут яны яшчэ зусім невялікія, у адрозненне ад поўдня краіны.

У Беларусі летась ссеклі 12 мільёнаў кубаметраў лесу з-за караеда.

### Чаму семінар праводзілі маладзечанцы

Галоўны ляснічы Маладзечанскага лягаса **Андрэй Шыбека** расказаў:

– Калі кіраўніцтва збірала справаздачы пра каранёвую губку, мы паказалі, што ў нас яе вельмі мала, амаль няма. Тэлефануе кіраўніцтва: «Ды вы што, не можа быць! Ва ўсёй краіне такая праблема! Вы што, перамаглі яе?» Адказваю: «Ну, я ж не схлусіў. Мы выкарыстоўвалі розныя метады барацьбы, таму так мала». Генеральны дырэктар сказаў, што прыедзе праверыць, знойдзе хоць адзін ачаг – мне не працаваць. Калі ж праўда – правядзём у вас семінар, і вы ўсіх навучыце, як змагацца з губкай.

Генеральны дырэктар прыехаў і ўпэўніўся, што маладзечанцы казалі праўду. Работнікі сістэмна працуюць над тым, каб не дапусціць распаўсюджвання шкодніка для дрэў грыба. Праводзяць санітарныя высечкі па тэхналогіі. У сасновых насаджэннях высякаюць зімой, а не летам. Таму што калі сячы пашкоджаныя грыбам дрэвы летам, споры разлятаюцца і заражаюць яшчэ больш дрэў.

### Як звязаныя губкі і жукі-караеды

Каранёвая губка – гэта грыбок, з-за якога дрэва хварэе. У сасны губка шкодзіць карані і частку ствала, што выклікае гніль.

Губка аслабляе ахоўныя ўласцівасці дрэва, таму яно лёгка здаецца пад атакай іншых шкоднікаў. Калі ў лесе з'явіліся ачагі губкі, на дрэвы з лёгкасцю нападаюць караеды і ствараюць свае ачагі.

> **Калі на дрэве пасяліўся караед, ён пачынае спажываць тую частку, праз якую дрэва праводзіць пажыўныя рэчывы і вільгаць. З цягам часу з-за караеда сасна жаўцее, сохне і заўчасна гіне.**



Удзельнікі семінара разглядаюць пашкоджаны караедам фрагмент галінкі.

З-за ачагоў губкі і караеда дрэвы гінуць масава. І адзін, і другі шкоднік распаўсюджваецца хутка і ахоплівае вялікія тэрыторыі.

### Як нашкодзіў караед у рэгіёне

На Маладзечаншчыне ў 2018 годзе з-за караеда высеклі 60 гектараў суцэльнымі высечкамі. У 2017 не спатрэбілася высякаць ніводнага гектара. Сёлета ўжо высеклі два гектары.

Галоўны ляснічы Вілейскага лягаса **Сяргей Філістовіч** расказаў пра сітуацыю з караедам на яго тэрыторыі:

– Праблема сасновага верхавіннага караеда дайшла да нас летась. Выразалі 62 гектары суцэльных санітарных высечак. Участкі невялікія – 0,2,–0,5 гектара. У аб'ёме лягаса гэта невялікая плошча ў параўнанні з тым, што адбываецца ў суседзяў. Сёлета бачым працяг усыхання. Ужо паставілі на ўлік і высеклі 15,5 гектара. Атрымліваецца, з таго часу, як жукі апанавалі паўднёвыя лягасы вобласці, да нас дайшлі праз два гады. Караед з'яўляецца пераважна ў ачагах каранёвай губкі.

Галоўны ляснічы Валожынскага лягаса **Сяргей Бараноўскі** расказаў пра становішча падуладнай тэрыторыі:

– Першая прычына ўсыхання сасновых насаджэнняў – яны аслабленыя, і найперш у ачагах каранёвай губкі. Ускладняе сітуацыю анамальная гарачыня лета, як летась. Зацяжная засуха, а ў нас была мінімальная колькасць ападкаў у параўнанні з суседзямі. У 2017 годзе мы ссякалі ў Любанскім лягасе – выразалі каля 200 гектараў. А дома выразалі 50 гектараў. У 2018 ссякалі толькі дома ельнікі і сасну – агулам каля 324 гектараў суцэльных санітарных высечак. Сярэдняя плошча высечак – 0,8 гектара. Атрымліваецца, шмат участкаў невялікага памеру. А чым меншыя ўчасткі – тым больш клопату. Сёлета пакуль ссеклі 13 гектараў сярэдняй плошчай 0,2. На жаль, тое, як будзе развівацца справа, не столькі залежыць ад нас, колькі ад надвор'я. Сёння мы абмеркавалі, як змагацца з навалай, а Маладзечанскі лягас заўсёды ладзіць семінары на вышыні.

### Чаму караеды так хутка сталі такой вялізнай праблемай?

Пакуль і навукоўцы не могуць даць адназначнага адказу. Але гэтыя жукі сталі найважнейшай праблемай лясных гаспадарак не толькі Беларусі, але і Украіны, Польшчы, Чэхіі.

Калі пайшоў выбух распаўсюджвання, першай версіяй прычыны сталі кліматычныя змяненні, якія інтэнсіўна прагрэсуюць па ўсёй планеце. Яны змяняюць жыццё ў лясах. Тыя пароды і парадкі, што былі для нас звыклымі, пацыху ідуць на поўнач. А да нас прыходзяць новыя.

Калі стаіць спякотнае лета, надыходзіць ранняя вясна, а восень позняя, жук робіць некалькі цыклаў размнажэння. І іх колькасць расце непрадказальна.

Караеды жылі ў лясах Беларусі, але не былі праблемай. Масавую шкоду яны ўпершыню ўчынілі ў 2010 годзе на Гомельшчыне.

Аднак змяненні клімату – толькі адна з прычын распаўсюджвання шкодных жукоў. Калі ён засяляе здаровае дрэва, яно выдзяляе жывіцу і змагаецца з ім. Аслабленае ж дрэва, напрыклад, з-за губкі, супраціўляцца агрэсару не можа.

Яшчэ адна праблема – як ацаніць стан сасны зверху. Для гэтага маладзечанскія ляснічыя выкарыстоўваюць квадракоптар, дзякуючы якому ўсе праблемы лесу як на далоні. Абзавесціся такой тэхнікай маладзечанцы раяць усім калегам, у каго квадракоптараў яшчэ няма. На першай старонцы вы бачыце фота, як маладзечанцы дэманструюць карыснасць такой навінкі.

### Як караед адаб'ецца на нас

З-за караеда і губкі ў лясах высякаюць усё большыя плошчы. І гэта нясе вялізныя эканамічныя і экалагічныя страты.

> **Леснікі садзяць пэўны ўчастак сасновага лесу з разлікам, што яго можна будзе ссекчы праз сто год. А пашкоджанае дрэва даводзіцца ссякаць, калі яму 40-50 год.**

На семінары навукоўца Звягінцаў прапанаваў работнікам лясных гаспадарак выкарыстоўваць біяпрэпарат, які зможа дапамагчы дрэвам змагацца з каранёвай губкай. Калі дрэвы будуць здаровыя, яны змогуць змагацца і з караедам.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

Даведка «РГ».
Верхавінны караед – жучок, распаўсюджаны ў хвойных лясах Еўразіі. Даўжыня 2,2–3,9 міліметра. Шкодзіць сасну, часам елку, лістоўніцу, піхту. Размнажаецца ў аслабленых сасновых насаджэннях.

# Дзе летась знаходзілі перавышэнне радыяцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**У 2018 годзе спецыялісты цэнтра гігіены абследавалі 107 аб'ектаў жылога, вытворчага і грамадскага прызначэння.**



Фота wallpapers.99px.ru.

Не паўсюль у раёне варта збіраць грыбы і ягады.

Кантралявалі магутнасць эквівалентнай дозы гама-выпраменьвання і аб'ёмнай актыўнасці ізатопаў радону (ЭРАА). Вымяралі пры адводзе зямельных участкаў пад будаўніцтва, запуску ў працу аб'ектаў, закончаных будоўлях, пасля рэканструкцыі ці капітальнага рамонту.

### Дзе лепш не збіраць дары лесу

На ўсіх даследаваных аб'ектах актыўнасць радону не перавышала нарматыўных значэнняў. Гама-фон не перавышаў натуральны фон для адкрытай мясцовасці.

Цягам мінулага года кантралявалі ўтрыманне радыенуклідаў цэзію-137 у дровах, прадуктах, вадзе з цэнтралізаваных крыніц водазабеспячэння вытворчага сектара. Грамадзяне прасілі праверыць прадукты з асабістых прыватных гаспадарак, у леках і дзікарослай прадукцыі.

Даследавалі 19 проб дроў і 204 з вытворчага сектара. Усе яны былі ў норме.

Сярод 79 даследаваных проб ад жыхароў адна проба ягад з Іжы Вілейскага раёна не адпавядала нормам радыяцыйнай бяспекі. Радыенукліды цэзію-137 перавысілі допушчальны ўзровень у 1,6 раза.

### Правяраюць на радыяцыю і на рынку

На рынку Маладзечанскага райспажыўтаварыства правярае на радыяцыю лабараторыя ветэрынарна-санітарнай экспертызы. Тут правяраюць прадукты для асабістага ўжывання і дзікарослыя расліны, якія прадаюць на рынку.

Летась перавышэнне радыенуклідаў цэзію было ў дзвюх пробах грыбоў – курачках, што сабралі ля Чарчонава Вілейскага раёна, і змешаных грыбах з хоўхлаўскіх лясоў Маладзечанскага раёна.

**Перавышэнне допушчальнага ўзроўню было ў 6,7 і 1,8 раза адпаведна.**

### Вёскі пад кантролем

Штогод праводзім маніторынг населеных пунктаў, якія трапілі пад радыяцыйны кантроль у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС. Сярод іх пяць вёсак Хажоўскага і дзве вёскі Гарадоцкага сельсавета.

Па выніках кантролю ў 2018 годзе, магутнасць эквівалентнай дозы гама-выпраменьвання ў гэтых мясцовасцях не перавышала натуральны фон. Яна склала менш за 0,2 мкЗ/гадзіну. Уся мясцовая прадукцыя – гародніна, фрукты, малако – адпавядала гігіенічным нарматывам.

Радыяцыйная абстаноўка па горадзе і раёне застаецца стабільнай. Выпадкаў аварый на аб'ектах, што выкарыстоўваюць крыніцы іанізуючага выпраменьвання, і на патэнцыйна небяспечных аб'ектах у мінулым годзе не зарэгістравана.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

# Еўрасаюз працягвае набор у Еўрапейскую школу Усходняга партнёрства

**Да 18 сакавіка прымаюць заяўкі на стыпендыі для вучняў 16-17 год з Беларусі, Арменіі, Азербайджана, Грузіі, Рэспублікі Малдовы і Украіны.**

Дадзеную стыпендыяльную праграму фінансуе Еўрапейскі саюз. Яна дазволіць **35 найлепшым навучэнцам** з шасці краін атрымаць высакаякасны дыплом «Міжнароднага бакалаўрыяту» (IB) з акцэнтам на еўрапейскія даследаванні, які прызнаецца ва ўсім свеце. Праграму дыплома Еўрапейскай школы Усходняга партнёрства будзе рэалізоўваць «Новая школа» ў Тбілісі (Грузія). Праграма ўяўляе сабой двухгадовы курс акадэмічнай падрыхтоўкі, які распачнецца ў 2019-2020 навучальным годзе.

Дадзеная ўнікальная праграма дыплома IB сумяшчае акадэмічныя перавагі дыплома IB са спецыялізаваным навучаннем, якое пабудаванае на прынцыпах сістэмы Еўрапейскага школьнага навучання.

Адабраныя навучэнцы будуць наведваць заняткі ў шматмоўным і шматкультурным асяроддзі, што дазволіць ім палепшыць разуменне Еўропы і Еўрапейскага саюза, а таксама паглыбіць веданне еўрапейскіх моў, літаратуры і гісторыі. Навучэнцам прапануюць багатую праграму пазакласнай дзейнасці з магчымасцю ўдзелу ў канферэнцыях высокага ўзроўню на пытаннях, звязаных з ЕС. Пасля вучобы навучэнцам выдадуць дыплом «Міжнароднага бакалаўрыяту».

Еўрапейскую школу Усходняга партнёрства стварылі ў рамках намаганняў Еўрапейскага саюза і яго краін-партнёраў па паляпшэнні адукацыйных магчымасцяў і міжрэгіянальнага абмену для маладых людзей з Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны.

Зацікаўленыя навучэнцы павінны падаць заяўку праз сайт: www.eapeuropeanschool.eu **да 12:00** (полудзень, UTC +4:00) **18 сакавіка 2019 г.** Працэс адбору будзе складацца з пісьмовых тэстаў і сумоўя з папярэдне адабранымі кандыдатамі. Спіс атрымальнікаў стыпендыі на 2019-2012 навучальны год будзе абвешчаны да канца мая 2019 г.

### Каб знайсці больш падрабязную інфармацыю

Калі ласка, наведайце сайт: www.eapeuropeanschool.eu

Па любых пытаннях звяртайцеся на адрас электроннай пошты euscholarship@newschoolgeorgia.com або на нумар: + 995 32 225 70 06 (стацыянарны тэлефон).

**Паводле паведамлення праграмнай ініцыятывы «Усходняе партнёрства».**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**2,5** тысячы

новых кватэр пабудавалі ў Беларусі арганізацыі ўсіх формаў уласнасці ў студзені 2019 года.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.02 | 7.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1385 | **2.1414** |
| Еўра | 2.4339 | **2.4202** |
| Злоты, 10 | 5.6482 | **5.6292** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2521 | **3.2518** |
| Грыўня, 100 | 7.9410 | **8.0853** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **27.02** | **6.03** |
| Еўра | 2.4180/2.4370 | **2.4100/2.4320** |
| Долар ЗША | 2.1320/2.1470 | **2.1300/2.1470** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **27.02** | **6.03** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,99 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,55** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,15 | **1,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 6,50 | **4,70** |
| Баклажан, 1 кг | 6,00 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 4,95 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **7,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 1,70 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Хурма, 1 кг | 5,50 | **–** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Таксі з пасажыркай урэзалася ў слуп

ВІЛЕЙКА

Аварыя здарылася 3 сакавіка каля 21:30 на вуліцы 17 Верасня.

Кіроўца таксі не ўлічыў умовы надвор'я, не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў мачту вулічнага асвятлення.

У таксі была пасажырка – 59-гадовая жыхарка Вілейкі. Яе з лёгкай чэрапна-мазгавой траўмай і ўдарамі забрала «хуткая дапамога». Кіроўца не пацярпеў, распавялі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## З пажару ратавалі цялятаў

ВІЛЕЙКА

Узгаранне на ферме ў Каловічах адбылося ноччу каля 2:30, расказаў карэспандэнту інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк**.

Пажар заўважылі работнікі дарожнай службы, якія рамантавалі асфальт на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач. Яны патэлефанавалі і паведамілі, што гарыць дом.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, аказалася, што гарыць ферма. Стала вядома, што ў наступным памяшканні знаходзіцца больш за 20 цялятак двух-трох месяцаў.

Адны выратавальнікі тушылі пажар, іншыя выносілі жывёлу.

Агонь пашкодзіў каля 200 квадратных метраў даху і дзверы. Цяляты не пацярпелі.

Афіцыйнай прычыны ўзгарання пакуль не называюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выратавалі чалавека

АШМЯНЫ

27 лютага ў 14:33 выратавальнікам паведамілі аб пажары ў пяціпавярховым доме па вуліцы Міцкевіча ў Ашмянах.

На месца накіравалі чатыры групы. З вокнаў кватэры на першым паверсе ішоў густы дым. У памяшканні кухні байцы МНС знайшлі гаспадара 1976 г. н., які спаў, і вынеслі на свежае паветра. Шпіталізацыя не спатрэбілася. З кватэры на другім паверсе эвакуявалі двух жыхароў. Пазней яны вярнуліся ў свае кватэры.

**Паводле сайта МНС.**

## У аварыі ў Мінску загінуў маладзечанец

МАЛАДЗЕЧНА

Ноччу 28 лютага ў Мінску ў ДТЗ трапілі два аўтамабілі: «Мазда» і «Міцубісі». Кіроўца «Мазды» загінуў. Гэта быў 23-гадовы маладзечанец.

Па інфармацыі ДАІ, кіроўца «Мазды» не справіўся з кіраваннем і вылецеў у кювет. Яго аўтамабіль стукнуўся ў дрэва. Следам за ім ехала «Міцубісі» з двума мужчынамі. Аўто таксама з'ехала з дарогі. Як вынік, пералом у аднаго з пасажыраў.

Па папярэдніх дадзеных, усе ўдзельнікі аварыі былі знаёмыя і выпівалі перад здарэннем.

**Паводле «Беларусь 1».**

## Унесла грошы, а сена не дачакалася

МАЛАДЗЕЧНА

У РАУС звярнулася 45-гадовая жыхарка Лебедзева. Жанчына заключыла дагавор на пастаўку дзевяці рулонаў сена, унесла перадаплату, аднак тавар ёй не прывезлі.

Аказалася, пацярпелая ў інтэрнэце знайшла аб'яву аб продажы сена. Цана за тону – сто рублёў. Па тэлефоне жанчыну папярэдзілі, што трэба скласці дагавор і ўнесці перадаплату, пасля чаго на працягу трох дзён ёй даставяць тавар. Яна пагадзілася.

Для афармлення замовы прыехаў мужчына. Ад фірмы ён заключыў дагавор куплі-продажу і падаў таварны чэк на суму 240 рублёў. Пасля атрымання грошай зламыснік знік.

Міліцыянеры высветлілі асобу фігурантаў. Гэта пара з Віцебска. 25-гадовая жанчына так вырашыла падзарабіць. Размясціўшы ў пачатку снежня 2018 года на інтэрнэт-партале аб'яву аб продажы сена, выконваць дагаворныя абавязацельствы не збіралася. Дагаворы і таварныя чэкі на імя аднаго са сталічных ІП скачала з інтэрнэту.

Дзейнасць ІП, ад імя якога здзяйснялася здзелка, не звязаная з сельскай гаспадаркай. Подпісы ў дакументах былі фальсіфікаваныя. Факт подпіскі пацвердзіла экспертыза.

Да справы жонка падключыла мужа. Яна папрасіла яго з'ездзіць у Лебедзева і заключыць дагавор, атрымаць перадаплату. Сапраўднага намеру мужчына не ведаў. Атрыманыя грошы аддаў жонцы, яны іх патрацілі на свае патрэбы.

Жанчына неаднаразова трапляла ў поле зроку віцебскіх праваахоўнікаў за махлярства. Цяпер аператыўнікі усталёўваюць дачыненне віцяблянкі да іншых фактаў завалодання грашыма незаконным шляхам у Беларусі. Фігурантцы пагражае пазбаўленне волі да чатырох гадоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Фота УУС Мінаблвыканкама.

Падчас вобшуку ў падазраванага знайшлі шмат паліва.

# Інжынера падазраюць у тым, што браў хабар за тэхагляд

**У Маладзечне інжынера арганізацыі, якая займаецца тэхаглядам транспартных сродкаў, падазраюць у атрыманні хабару за спрыяльнае вырашэнне пытанняў праходжання тэхнічнага агляду несправнымі аўтамабілямі.**

МАЛАДЗЕЧНА

Гэта ўстанавілі супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Маладзечанскага РАУС. Падобную «дапамогу» кіроўцам 38-гадовы фігурант аказваў рэгулярна і працяглы час.

Па словах начальніка АБЭП Маладзечанскага РАУС **Дзмітрыя Жартуна**, у поле зроку аператыўнікаў зламыснік трапіў больш за год таму. З'явіліся падставы меркаваць, што на працягу доўгага часу за матэрыяльныя ўзнагароды фігурант дапускаў аўтамабілі да дарожнага руху незаконна. Звярталіся да мужчыны ўладальнікі, як правіла, няспраўных грузавых машын, а таксама старых легкавікоў. У спісе кліентаў жыхары Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў.

У якасці падзякі, у асноўным, прымалася паліва і спіртныя напоі. Падчас вобшуку ў гаражы падазраванага супрацоўнікі міліцыі знайшлі больш за паўтоны дызельнага паліва, у каністрах каля 300 літраў спіртазмяшчальнай вадкасці. Узоры накіраваныя на экспертызу. Канфіскавалі дзясяткі бутэлек элітнага алкаголю.

Праваахоўнікі ўстанавілі больш за дзясятак фактаў злачыннай дзейнасці. Цяпер фігурант пад падпіскай аб нявыездзе.

Падазраванаму пагражае пазбаўленне волі да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Маладая пара распаўсюджвала наркотыкі ў Маладзечне

**Разбіральніцтва ў дачыненні да 20-гадовага мінчука, затрыманага за адміністрацыйнае правапарушэнне па лініі Дзяржаўтаінспекцыі, скончылася завядзеннем крымінальнай справы па частцы 3 артыкула 328 (незаконны абарот наркотыкаў з мэтай збыту) Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь і затрыманнем яго дзяўчыны.**

МАЛАДЗЕЧНА

Маладыя людзі займаліся распаўсюджваннем наркотыкаў на тэрыторыі Мінскай вобласці.

Стала вядома, што малады чалавек распаўсюджвае наркотыкі. У яго машыне знайшлі некалькі падрыхтаваных да закладкі пакуначкаў з псіхатропамі. Тады да разгляду падключыліся супрацоўнікі наркакантролю УУС Мінскага аблвыканкама.

Аператыўнікі ўстанавілі, што на працягу некалькіх месяцаў затрыманы працаваў на адзін з інтэрнэт-магазінаў па гандлі наркотыкамі. Наркотыкі, як мяркуецца, прывозіў з Расіі, а закладкі рабіў у сталіцы і некалькіх гарадах на Міншчыне, у тым ліку, у Маладзечне.

Міліцыянеры даведаліся адрас, па якім малады чалавек разам са сваёй 19-гадовай дзяўчынай наймалі жыллё. У нядзелю пры вобшуку на кватэры, якую наймала пара, знайшлі і канфіскавалі каля аднаго кілаграма псіхатропаў, а таксама прыстасаванні і абсталяванне для ўзважвання і фасоўкі наркотыку.

Таксама ўстанавілі, што дзяўчына за некалькі гадзін да візіту супрацоўнікаў міліцыі паспела зрабіць дзве закладкі з наркотыкам у Мінску. Міліцыянеры выехалі па ўказаных ёй адрасах і забралі са схованак наркотыкі. Усяго ў маладых людзей канфіскавалі больш за 1,2 кілаграма розных псіхатропаў.

Раней затрыманыя ў поле зроку праваахоўнікаў не траплялі, нідзе не працавалі. Па іх словах, першыя крокі ў наркабізнесе пачалі рабіць летась у верасні. У інтэрнэце знайшлі аб'яву. Працадаўца запэўніваў, што справа гэта бяспечная, уся перапіска шыфруецца і адсачыць яе немагчыма. Калі маладыя людзі будуць акуратныя падчас закладак, змогуць спакойна працаваць і зарабляць прыстойныя грошы.

За працу плацілі біткоінамі, таксама нібыта ў мэтах бяспекі. Пачыналі, як і многія, з раскладкі невялікіх доз у сталіцы. Праз некаторы час аб'ёмы павялічыліся, і малады чалавек ужо стаў вазіць наркотык у буйныя гарады Мінскай вобласці. Дзяўчына ва ўсім яму дапамагала: асноўнай яе задачай была фасоўка наркотыкаў, але часам яна ездзіла разам са сваім маладым чалавекам на закладкі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Плати меньше! В «Острове чистоты» новая ударная система скидок




## Больше не нужно сравнивать цены в разных торговых сетях и дожидаться акций на нужные товары

Моя соседка Надежда Петровна – чемпион по охоте за скидками. Чтобы купить нужные вещи, она может обойти все магазины возле дома и своей работы, а иногда еще и съездить на другой конец города. Потом сообщает о находках: где удалось дешевле купить стиральный порошок, где моющие средства, а где косметику... Вот только признается, что такие забеги по магазинам для нее стали слишком утомительными и выматывающими. Шутка ли – сходить в один магазин, потом в другой, третий, на рынок, затем вернуться в первый, если там была более выгодная цена, постоять в нескольких очередях, изучить все буклеты...

При такой экономии люди теряют кое-что более ценное – свою энергию и время. И, пожалуй, это сводит к нулю все выгоды от шопинга. Куда приятнее было бы спокойно прийти в один магазин, где есть все необходимое и где действует дисконтная программа на все товары, а не только на несколько позиций. И хорошо было бы сделать это именно в тот день, когда тебе это удобно, а не подстраиваться под расписание акций магазина и дни распродаж. Получить такую свободу выбора было бы приятно любому покупателю, уставшему от навязывания позиций и поисков мест с лучшими ценниками.

### Чем больше сумма покупки – тем больше скидка!

Теперь такая возможность есть! В честь весны сеть дискаунтеров «Остров чистоты» объявляет о приятном обновлении: в марте здесь действует новая система скидок. Теперь делать покупки с дисконтной картой магазина стало гораздо выгоднее: несмотря на то, что на ней написано 7%, скидка по ней может увеличиваться до 18%. И это экстремально высокий дисконт для магазинов такого формата.




Условия покупки такие: покупай больше – плати меньше. Чем выше сумма приобретений, тем больше скидка. При покупке товаров на сумму от 15 рублей вы получаете скидку 12%, от 25 рублей – 15%, а от 35 рублей – 18%. При расчете нужно предъявить дисконтную карту. Скидки распространяются на все товары, кроме акционных.

«Остров чистоты» дарит возможность экономить без ущерба для качества жизни. Теперь вы можете прийти в один магазин и сделать покупки, точно зная, что цена в любом случае будет выгодной. Это и есть разумная экономия – вы бережете не только свои деньги, но и время. Забудьте об охоте за скидками по разным торговым сетям. Приходите в «Остров чистоты» – и купите все, что нужно, в одном месте.

### Останутся ли скидки 50%?

Конечно же, магазин не прекращает радовать своих покупателей и привычными акциями: в «Острове чистоты» по-прежнему можно купить некоторые товары всего лишь за полцены! Например, до 13 марта скидка 50% действует на лак для волос, зубную пасту, стиральный порошок, средство для мытья посуды, чай и многие другие товары. Делайте покупки выгодно и с умом!

### Выиграй путевку в Испанию и автомобиль!

Приходя на шопинг в «Остров чистоты», вы можете еще и выиграть солидные призы. По многочисленным просьбам покупателей сеть дискаунтеров открывает второй сезон игры «Счастливый случай», которая пользовалась огромной популярностью в прошлом году.

Первый тур игры в 2019 году проходит с 21 февраля по 17 марта. И здесь не обошлось без приятных сюрпризов! В этом году список призов дополнился отличными поездками в прекрасные страны. Согласитесь, было бы приятно сходить в магазин за шампунем или стиральным порошком и выиграть бонусом путешествие на двоих на море. Например, в первом туре разыгрывается поездка в Испанию на двоих на 7 дней. Победитель получит сертификат на 5000 рублей, которым он сможет воспользоваться в течение восьми месяцев. Таким образом, вы сможете сами подобрать сезон, который больше подойдет для вашего путешествия.

И конечно же, в первом туре конкурса предусмотрены и другие приятные призы: будут разыгрываться 10 микроволновых печей Samsung, 10 телевизоров LG, 20 денежных призов по 500 рублей... И, конечно, главный приз – автомобиль Volkswagen Polo Trendline. Хотите стать владельцем новенькой машины? Условия участия в конкурсе ищите на сайте ostrov-chistoty.by. Не упустите момент – ловите свою удачу!

### Адреса магазинов:

**Молодечно,** ул. Волынца, 12 • ул. В. Гостинец, 143, ТЦ «Модуль» • ул. В. Гостинец, 143-д • ул. В. Гостинец, 67 ТЦ «Спутник» • ул. В. Гостинец, 163-а • ул. Громадовская, 6-а • ул. Космонавтов, 1-а, ТЦ «Космос» • ул. Машерова, 19 • ул. Притыцкого, 16 • пл. Старое Место, 21 • ул. Хмельницкого, 3-к • ул. Хмельницкого, 22-б • ул. Скорины, 16

**Сморгонь,** ул. Ленина, 4 • ул. Ленина, 46-б • Победы, 2 • ул.Суворова, 32 • ул.Юбилейная, 8

### Что подарить на 8 Марта?

Над этим вопросом приходится поломать голову не только мужчинам, но и женщинам, ведь надо предусмотреть подарки и для мам, и для бабушек, и для дочек, и для сестер, и для коллег, и для подруг... «Остров чистоты» и тут выручит: здесь можно купить готовые подарочные наборы для женщин. А если вы не знаете, что может понравиться человеку, обратите внимание на подарочные сертификаты. Они могут стать одним из лучших подарков для любой хозяйки, ведь тогда женщина точно сможет выбрать именно то, что ей нужно.

А выбор в магазине «Остров чистоты» и правда такой, что можно растеряться! Пожалуй, широчайший ассортимент – это главное преимущество сети дискаунтеров. Здесь вы найдете чистящие средства для дома, декоративную косметику, кремы и шампуни, гели для душа и дезодоранты, краски для волос и духи, подгузники, туалетную бумагу и многое-многое другое. В «Острове чистоты» всегда найдутся товары для всей семьи.

Магазины сети дискаунтеров «Острова чистоты» есть во всех городах и поселках городского типа в Беларуси, а их количество неуклонно растет – в феврале был открыт 535-й магазин. Чаще всего они расположены в шаговой доступности от ваших домов. А если вдруг рядом с вашим домом такого дискаунтера пока еще нет, то вы можете сделать покупки в интернет-магазине ostrov-shop.by. Это очень легко и приятно, ведь там всегда действует скидка 15%, а покупки вам привезут прямо домой при условии, что сумма заказа будет не меньше 25 рублей.




**Дорогие женщины!**

Сеть дискаунтеров «Остров чистоты» поздравляет вас с Международным женским днем 8 Марта! От души желаем нежности, тепла, любви, гармонии и радости. Пусть исполняются ваши самые сокровенные мечты, а рядом будут самые любимые люди. Побольше букетов и охапок цветов в каждый дом!

● КАЛЯНДАР

8 САКАВІКА

**Міжнародны жаночы дзень.**

**1929.** Нарадзіўся **Факунда Несцяровіч** (в. Юшкавічы, цяпер Мядзельскі раён), удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне, вязень савецкіх канцлагераў.

9 САКАВІКА

**1883.** Нарадзіўся **Францішак Аляхновіч**, беларускі драматург, тэатральны дзеяч, публіцыст. Яго аповесць «У капцюрох ГПУ» з'яўляецца першым творам сусветнай літаратуры, які апісвае жыццё ў сталінскім канцэнтрацыйным лагеры непасрэдна з погляду арыштанта. За плённую працу на ніве тэатра яшчэ пры жыцці яму прысвоілі званне «бацькі найноўшай беларускай драматургіі».

**1953.** У Лювене (Бельгія) памёр **Мікола Равенскі**, кампазітар, фалькларыст, аўтар музыкі беларускага гімна «Магутны Божа», дзеяч эміграцыі ў Германіі і Бельгіі.

**1814.** 105 гадоў з дня нараджэння **Тараса Шаўчэнкі**, украінскага пісьменніка, мастака, заснавальніка новай украінскай літаратуры. У 1829-1831 гг. жыў у Вільні. Падтрымоўваў беларускі рух. Памёр 10 сакавіка 1861 года.

11 САКАВІКА

**1887.** Нарадзіўся **Алесь Гарун** (сапр. Прушынскі; фальв. Новы Двор, цяпер Мінскі раён), дзеяч нацыянальнага руху, паэт.

**1839.** 180 гадоў назад у Вільні расстраляны **Шыман Канарскі**, удзельнік паўстання 1830-1831 гг., дзеяч вызвольчага руху.

**1941.** У савецкім зняволенні (ст. Марыінск Кемераўскай вобласці Расіі) загінуў **Аляксандр Уласаў**, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

12 САКАВІКА

**1851.** Памёр **Ян Баршчэўскі**, пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Пахаваны ў г. Чуднаў на Валыні.

13 САКАВІКА

**1989.** У Чыкага памёр **Іван Касяк**, беларускі грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША). Нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Гіры, цяпер Вілейскі раён. З лета 1941 гады знаходзіўся ў Мінску, працаваў у генеральным камісарыяце, кіраваў аддзелам культуры Беларускай народнай самапомачы і яе прадстаўніцтвам у Вілейцы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як жыў Івянец у гады Другой сусветнай

ВАЛОЖЫН

*Працяг.*
*Пачатак у №10.*

**Асаблівым злачынствам акупацыйнага рэжыму была ліквідацыя івянецкага гета.**

### З гісторыі івянецкага гета

З пачаткам вайны многія яўрэі не хацелі эвакуявацца на ўсход, а з пачаткам акупацыі не жадалі ісці ў лес, бо памяталі: у Першую сусветную вайну немцы паводзілі сябе без асаблівай жорсткасці.

Ужо ў пачатку ліпеня 1941 года, каб кантраляваць выкананне сваіх загадаў, немцы прымусілі мясцовых яўрэяў стварыць юдэнрат. Пад страхам смерці яўрэям загадалі насіць жоўтыя шасціканцовыя зоркі.

**Мясцовыя паліцаі пастаянна збівалі і рабавалі яўрэяў, прымушалі іх выконваць чорныя і цяжкія работы, выкарыстоўвалі як рабоў на прыборцы вуліц, стайняў.**

14 ліпеня 1941 года 14 яўрэяў – мужчын маладога і сярэдняга ўзросту, прадстаўнікоў інтэлігенцыі – эсэсаўцы з Валожына з дапамогай паліцыі і некаторых з мясцовых жыхароў арыштавалі і па надуманай прычыне звезлі і расстралялі.

5 верасня 1941 зондэркаманда ў Івянцы пры дапамозе мясцовай паліцыі забіла каля 50 яўрэяў.

10 лістапада 1941 года нацысты, рэалізуючы гітлераўскую праграму знішчэння яўрэяў, сагналі тых, хто застаўся – у большасці старых, дзяцей, жанчын і хворых, – у гета, абмежаванае вуліцамі Камсамольскай і Куйбышава.

11 лістапада яўрэяў прымусілі самім паставіць плот, які акружыў гета з трох бакоў, а з чацвертага боку мяжой гета стала рака. Гэта дапамагло зрабіць нескалькі ўцёкаў, асабліва зімой па лёдзе.

Гета было абгароджана калючым дротам і ахоўвалася паліцыяй і нямецкімі салдатамі.

**У гета ў кожную хату засялілі па некалькі сямей, вымушаных жыць у надзвычай цесных умовах і пры поўнай адсутнасці медыцынскай дапамогі. Асноўнай ежай была бульба, патаемна абмяняная на рэчы альбо іншыя каштоўнасці ў мясцовых сялян.**

Кожны дзень яўрэяў ганялі на прымусовыя працы. З-за такіх умоў пачалося масавае выміранне. На месцы, што вызваляліся, немцы прывозілі яўрэяў з Волмы, Рубяжэвічаў, Налібокаў і іншых вёсак. Нягледзячы на гэтыя ўмовы, у двух сінагогах, якія знаходзіліся на тэрыторыі гета, працягвалі ладзіць рэлігійныя службы.

У красавіку 1942 немцы сабралі 120 працаздольных мужчын. Іх пешшу накіравалі ў Навагрудскае гета, а астатніх, у якасці чорнарабочых, – у Дварэц. Па дарозе многія загінулі ад голаду альбо былі застрэленыя канваірамі.

У гэтым жа красавіку немцы і паліцаі знішчылі ў гета 120 яўрэяў. А 1 чэрвеня 1942-га вязняў гета ад 15 да 55 год сагналі ў памяшканне былых польскіх казармаў, збілі і, пратрымаўшы зачыненымі цэлую ноч, накіравалі пешшу ў Любчу і далей цягніком у Наваградак. Тых, хто валіўся ад знясілення, па дарозе расстрэльвалі.

**8 чэрвеня 1942 года немцы сабралі сорак чалавек з вуліцы 17 Верасня, прывялі ва ўрочышча Пішчугі, што каля дарогі Івянец – Пяршаі. Далі ім рыдлёўкі і загадалі выкапаць вялікую і глыбокую яму. У гэты ж самы дзень у Івянец прыехалі дзве-тры машыны з літоўскімі паліцаямі.**

На наступны дзень усе яўрэі былі ранкам сабраныя. У лес вывозілі часткамі. Там іх ставілі каля магілы і расстрэльвалі з кулямётаў. На малых дзяцей куль не трацілі. Іх бралі за ногі і білі галавой аб дрэва, а потым кідалі ў яму і пры гэтым не правяралі, ці жывое яно ці не. Таксама не правяралі і дарослых, некаторыя з якіх былі толькі параненыя, кідалі проста ў яму і ўсё.

Целы ў яме засыпаліся вапнай. Потым яшчэ некалькі дзён зямля на магіле варушылася. Расстрэльвалі літоўскія паліцаі. Мясцовыя сталі ў ачапленні. Усяго расстралялі 800 чалавек.




Помнік на месцы івянецкага гета.

Фота wikipedia.org

### Як узнікла група Супраціву

Смерцю за любую правіннасць каралі і людзей іншых нацыянальнасцяў.

**Расстрэльвалі на праваслаўных могілках. Усяго там былі дзве брацкія магілы. Але захавалася толькі адна.**

Расстрэльвалі кожны дзень. Таму магілы стаялі раскрытымі па некалькі месяцаў. Нябожчыкаў перасыпалі вапнай.

**Нягледзячы на гэта, жыхары Івянца пачалі барацьбу з ворагам. Стварылі івянецкую групу Супраціву.**

Яна падпарадкоўвалася Арміі Краёвай – польскім партызанскім атрадам, якія дзейнічалі ў Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Кіраваў Арміяй Краёвай польскі эміграцкі ўрад у Лондане.

У склад івянецкай групы ўваходзілі: **Казімір і Люцыя Дзяржынскія**, ксяндзы **Гіляры Прач**, **Герман Стэнпень і Ахілес Пухала**.

Спачатку яны толькі збіралі звесткі пра немцаў і перадавалі іх камандаванню Арміі Краёвай, потым яны выйшлі на сувязь з савецкімі партызанамі.

**Наступнай задачай, за якую яны ўзяліся, была праца з паліцыяй. Тут яны дасягнулі найбольшых поспехаў. Вынік быў такі, што падчас аперацыі «Перазвон» амаль уся івянецкая паліцыя перайшла на бок партызан.**

Дапамагалі члены групы Супраціву і простым людзям: памянншалі падаткі, давалі ліпавыя даведкі пра выплату падаткаў, даставалі несапраўдныя дакументы, перапраўлялі медыкаменты ў лес да партызан.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар**
**івянецкай бібліятэкі.**

*Працяг будзе.*



# тэлетыдзень

**11-17 сакавіка**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**28 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Балерына

## Ваша цяга да цудоўнага

**Паглядзіце на рысунак. Гэта сілуэт балерыны. Вам трэба дапоўніць карціну неабходнымі дэталямі і зрабіць яе прывабнай і прыгожай. Сэнс задання ў тым, што вы павінны стварыць нешта вытанчанае, прыгожае (як вы гэта бачыце і разумееце). Гаворка ідзе не толькі пра балерыну, але і пра фон.**



З кнігі «Сто графічных тэстаў».

### Ключ да тэста

• **Калі вы ПРЫБРАЛІ БАЛЕРЫНУ Ў КАЗАЧНЫ ЎБОР і намалявалі вакол яе КАЗАЧНЫЯ ДЭКАРАЦЫІ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы цэніце прыгажосць і шчыра захапляецеся ёю, аднак выразна размяжоўваеце рэальнае жыццё і мастацтва. Вы лічыце, што мастацтва каштоўнае само па сабе, але яму няма месца ў штодзённасці.

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ БАЛЕРЫНУ НА СЦЭНЕ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы стараецеся напоўніць сваё жыццё прыгажосцю, імкняцеся злучыць прыгожае з карысным, ідэальнае з рэальным. Вы любіце прыгожа апранацца, акружаеце сябе прыгожымі рэчамі і людзьмі. Вас можна назваць эстэтам.

• **Калі вы ЗАФАРБАВАЛІ СІЛУЭТ БАЛЕРЫНЫ,** то гэта значыць, што вашы паняцці аб прыгажосці, аб цудоўным не супадаюць з пунктам гледжання большасці, вы арыгінальныя і гледзіце на свет па-іншаму, са сваёй званіцы. Вы творчы чалавек, тонкі знаўца мастацтва. З такіх, як вы, атрымоўваюцца заўзятыя калекцыянеры.

• **Калі вы ЗАФАРБАВАЛІ ФОН, пакінуўшы СІЛУЭТ БАЛЕРЫНЫ БЕЛЫМ,** то гэта гаворыць аб вашым імкненні захаваць свае перакананні ў недатыкальнасці. Магчыма, цяпер у вас не самы лепшы перыяд у жыцці: на вас ціснуць, прымушаюць змяніць свой пункт погляду, адмовіцца ад сваіх планаў. Але вы не хочаце мяняцца.

• **Калі вы ПАСТАРАЛІСЯ МАКСІМАЛЬНА НАБЛІЗІЦЬ ЗНЕШНАСЦЬ БАЛЕРЫНЫ ДА РЭАЛЬНАГА АБЛІЧЧА,** гэта значыць, вырысоўвалі ўсе дэталі і падрабязнасці твару, цела, рук і ног, адзення, то гэта значыць, што вы не эстэт. Прыгожае не вельмі моцна прыцягвае вас, для вас галоўны крытэр рэчы – яе карыснасць, патрэбнасць ці тая выгада, якую вы можаце з яе ўзяць. Вы ніколі не трапіце пад уплыў музыкі, танца ці жывапісу, вы ў прынцыпе не разумееце, як гэта магчыма. Вы практычны і прагматычны чалавек.

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ БАЛЕРЫНУ СТОЯЧЫ НА ШАРЫ,** то гэта значыць, што вы славалюбівыя і амбіцыйныя, вы складаеце планы на будучыню і нават думаць не жадаеце аб тым, што яны могуць не спраўдзіцца. Вашы планы і задумы наўпрост звязаныя з мастацтвам, творчасцю. Вы марыце рэалізаваць сябе на любімай ніве і настойліва дамагаецеся свайго.

• **Калі Ў РУКАХ БАЛЕРЫНЫ ВЫ НАРЫСАВАЛІ НЕЙКІЯ ПРАДМЕТЫ,** то гэта значыць, што вы ўсёй душой імкняцеся да прыгожага і цягнецеся да ўсяго цудоўнага, аднак зразумець мастацтва вам не дадзена. У вас няма густу і мастацкіх здольнасцяў, вы не можаце аддзяліць божы дар ад яечні.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«КРАСОТКИ В БЕГАХ».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.40, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«МАЛЕНЬКАЯ МИСС СЧАСТЬЕ».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«МЭВЕРИК».**
**16.35** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «УБИЙСТВО НА БАЛУ В ЧЕСТЬ ДНЯ ПОБЕДЫ».**
**17.30** Х/ф **«ХОР».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЭВЕРЕСТ».**
**23.10** Х/ф **«КАК ЖЕНИТЬ ХОЛОСТЯКА».**

**ВТОРНИК, 12 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ГОЛУБИ».**
**9.15** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мой любимый питомец.
**11.00** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ».**
**16.20** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ТАЙНА ОХОТНИЧЬЕГО ДОМА».**
**17.15** Х/ф **«ЕВА. ИСКУССТВЕННЫЙ РАЗУМ».**
**18.50** «Цена недвижимости».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ТРИ МЕТРА НАД УРОВНЕМ НЕБА».**
**23.10** Х/ф **«ИДЕАЛЬНЫЕ НЕЗНАКОМЦЫ».**

**СРЕДА, 13 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ ПАРНЕМ».**
**9.05** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«ТРИ МЕТРА».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«ЖИВИ РАДИ НАС».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ПРОКЛЯТИЕ ЕГИПЕТСКОЙ ГРОБНИЦЫ».**
**17.20** Х/ф **«РЫЦАРИ НЕБА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ИСПЫТАНИЕ».**
**23.00** Х/ф **«ВКУС ЖИЗНИ».**

**ЧЕТВЕРГ, 14 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 0.25** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ГУСАРСКАЯ БАЛЛАДА».**
**9.00** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«ИСПЫТАНИЕ».**
**13.00, 20.05** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.50** Х/ф **«СЕРДЦЕЕДКИ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «СМЕРТЬ ЛОРДА ЭДЖВАРА».**
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«РАЗЛОМ».**
**22.45** Х/ф **«ПРОСТО ХОРОШО БЫТЬ РЯДОМ».**

**ПЯТНИЦА, 15 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.15** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПРОСТО ХОРОШО БЫТЬ РЯДОМ».**
**9.15, 16.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.35, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«РАЗЛОМ».**
**12.45, 20.00** Т/с **«ТИХАЯ ПТИЦА».**
**13.35** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.50** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ». «ТИХОНЯ».**
**17.45** «Китайский Новый год».
**18.15** «Цена недвижимости».
**18.30** «Мой любимый питомец».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Герои комиксов на экране» Фантастический триллер «Люди Х».
**23.30** Х/ф **«МАММА МИА».**

**СУББОТА, 16 МАРТА**

**7.00, 18.50, 21.15, 1.15** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета земля».
**8.00** Мультфильмы «Лесная братва».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Т/с **«НЕ ТВОЕ ТЕЛО».**
**14.20** Х/ф **«ВЛЮБЛЕН ПО СОБСТВЕННОМУ ЖЕЛАНИЮ».**
**15.45** «Отвечайка».
**15.50** Мультфильмы «Три богатыря».
**17.00** Х/ф **«ЭЛВИН И БУРУНДУКИ».**
**18.35** «Друзья дедушки Марко».
**18.55** Х/ф **«ОТЧУЖДЕНИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«КАЗИНО РОЯЛЬ».**
**23.45** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 17 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 23.45** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Династия».
**8.15** Мультфильмы «Лесной патруль».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Китайский Новый год».
**10.25** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**12.05** Х/ф **«МИМИНО».**
**13.40** Х/ф **«ЛЕГЕНДЫ ОСЕНИ».**
**16.00** Смотрим всей семьей: «Щелкунчик».
**17.40** «Отвечайка».
**17.45** «Друзья дедушки Марко».
**18.00** «Цена недвижимости».
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«БЛЕФ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ САМУРАЙ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 МАРТА**

**6.15** Песня на завтрак.
**6.30** Х/ф **«ИНСТРУКЦИЯ НЕ ПРИЛАГАЕТСЯ».**
**8.15** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**9.50** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**11.55, 14.30, 18.00, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**15.00, 21.40** Новости БЖД.
**17.40, 19.30** Все обо всем.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Таланты края.
**20.15** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**

**ВТОРНИК, 12 МАРТА**

**6.25, 7.15** Песня на завтрак.
**6.10, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 15.55, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**14.40** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ. НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Театральная гостиная: Народный театр «Метаморфозы». Королева красоты.

**СРЕДА, 13 МАРТА**

**5.15, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 10.40, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**10.30, 20.15** Все обо всем.
**11.00** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**12.40** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**14.20, 18.30, 22.20** Мажорный лад.
**15.00, 19.15** Мнения и факты.
**15.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**
**16.50** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 14 МАРТА**

**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Песня на завтрак.
**8.15** Мая Радзіма.
**12.40** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**14.15, 22.20** Мажорный лад.
**19.15** Достояние Минщины.
**20.15** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**

**ПЯТНИЦА, 15 МАРТА**

**5.40, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**11.30, 16.15, 18.10, 22.30** Мажорный лад.
**14.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**16.30** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**17.50** Все обо всем.
**18.00** Таланты края.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.30** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 16 МАРТА**

**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 8.40** Песня на завтрак.
**8.00** Время местное.Итоги.
**16.15, 21.15** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.30** Достояние Минщины.
**20.30** Желаем вам.
**21.30** Мнения и факты.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 17 МАРТА**

**5.50, 22.05** Мажорный лад.
**7.00** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**8.30** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**9.50** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.05** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**13.50** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ».**
**15.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**
**16.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ: НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**18.10** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**19.45** Мая Радзіма.
**20.00** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**

# Тэатр у Маладзечне наведаў драматург з Ізраіля

МАЛАДЗЕЧНА

**Пісьменнік, драматург, а па першай прафесіі доктар Лявон Агулянскі ўпэўнены, што шчаслівым чалавек можа быць тады, калі жыве сваім жыццём.**



Людміла Рошчына і Сяргей Карзей у спектаклі «Каханне. Сабака@ Кропка. RU».

Калі не падстройваецца пад модныя павевы часу, не іграе надуманую ролю дзеля стварэння пэўнага іміджу.

Пра гэта і большасць твораў, напісаных аўтарам. Гэта думка чырвонай стужкай праходзіць і праз п'есу «Каханне. Сабака@ Кропка. RU», прэм'ера якой адбылася напрыканцы мінулага года ў Мінскім абласным драматычным тэатры. Паставіў п'есу заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь лаўрэат дзяржаўных прэмій Беларусі **Валеры Анісенка**.

## Сярод гледачоў быў аўтар п'есы

Чарговы нядаўні паказ спектакля быў вельмі хвалюючым для тых, хто працаваў над яго ўвасабленнем на маладзечанскай сцэне. Асабліва для артыстаў **Сяргея Карзея** і **Людмілы Рошчынай**, якія выконваюць галоўныя ролі. Негалоўных роляў тут увогуле няма, бо п'еса напісаная для двух выканаўцаў.

Утрымаць увагу гледача на працягу двух актаў – задача няпростая для акцёраў, асабліва калі і сцэнічная дэкарацыі фактычна не мяняюцца. А хваляванне было выклікане тым, што ў глядзельнай зале прысутнічаў сам аўтар п'есы – **Лявон Агулянскі**, які прыляцеў у Беларусь з Ізраіля, дзе жыве. Прыляцеў спецыяльна, каб наведаць Мінскі абласны драматычны тэатр і паглядзець ужывую свой твор у выкананні маладзечанскіх акцёраў.

Сам драматург неаднойчы падкрэсліваў, што няма малых або правінцыйных тэатраў. Усё, што адбываецца на сцэне, а затым перацякае ў падсвядомасць гледача ў зале, невымяральнае і неабмежаванае ніякімі ўмоўнасцямі: ні геаграфічнымі, ні этнічнымі, ні ўзроставымі.

## Драматург бачыў Маладзечна ў сне

На творчую сустрэчу з вядомым драматургам пасля спектакля засталіся амаль усе гледачы. Лявон Ільіч найперш выказаў словы падзякі і захаплення ўсім, хто ставіў яго п'есу і хто шчыра рэагаваў на дзею, седзячы ў глядзельнай зале. У Маладзечне госць быў першы раз. Але прызнаўся, што бачыў горад раней у сне. Адзначыў, што Маладзечна мае свой адметны твар.

## Крыху пра госця з Ізраіля

Лявон Агулянскі лічыць сябе піцерцам у чацвертым пакаленні. У 1982 годзе скончыў «на выдатна» Першы Ленінградскі медыцынскі інстытут. На выбар прафесіі доктара паўплывала тое, што гэта спецыяльнасць адна з нямногіх, дзе ён мог прыносіць рэальную карысць людзям і не здраджваць сваім перакананням. На думку Лявона Агулянскага, гэтага не скажаш пра пісьменніцкае рамяство, якім ён таксама захапляўся юнаком.

Перспектыў для праўдзівага апісання рэчаіснасці не бачыў, а ў дысідэнты трапіць яму не хацелася. І ўсё ж талент пісьменніка праявіўся з цягам часу, калі сям'я Агулянскіх эміграваравала ў Ізраіль. Праявіўся тады, калі паспяхова і досыць знакаміты доктар Агулянскі ў чарговы раз сутыкнуўся з жыццёвай драмай чарговага пацыента, якому медыцына не ў стане была дапамагчы.

Апавяданні пісьменніка-пачынальніка сталі антыдэпрэсантам для яго і для чытачоў. Пазней лёс звёў пісьменніка з тэатральным рэжысёрам **Міхаілам Лур'е**, які прапанаваў перарабіць адну з аповесцяў у п'есу.

З таго моманту вір драматургіі захапіў і зацягнуў Лявона Агулянскага. Сёння на рахунку аўтара два раманы, шмат аповесцяў, драматычных твораў. Яго спектаклі ідуць у тэатрах краін СНД, Расіі, Ізраіля, ЗША, Германіі. Ён – сябра Саюза пісьменнікаў Расіі, Саюза рускамоўных пісьменнікаў Ізраіля, сябра Гільдыі драматургаў Расіі і Амерыкі, лаўрэат прэміі А. П. Чэхава.



Драматург Лявон Агулянскі.

Спектаклі па п'есах Агулянскага ставілі на сцэнах многіх беларускіх тэатраў. Маладзечанскі глядач мог пазнаёміцца з яго творчасцю, наведаўшы спектаклі «Дырыжор» і «Каханне. Сабака@ Кропка. RU». Іх паставіў даўні сябар Лявона Ільіча – Валеры Анісенка.

Ала КЛЕМЯНОК.
Фотаздымкі забяспечаны аўтарам.



Фота БелТА

Алена Атрашкевіч.

## Алена Атрашкевіч узначаліла Саюз кампазітараў Беларусі

МАЛАДЗЕЧНА

Старшынёй Беларускага саюза кампазітараў стала педагог і кампазітар **Алена Атрашкевіч**. Доўгі час яна працавала ў Маладзечанскім музкаледжы. Была ў журы першага рэгіянальнага фестывалю маладых выканаўцаў «Адна зямля», што ладзілі ў Чысці ў ліпені 1999 года.

Алену Атрашкевіч абралі пасля таго, як летась у лістападзе памёр папярэдні кіраўнік саюза – народны артыст СССР і Беларусі ганаровы грамадзянін горада Мінска **Ігар Лучанок**, які стаяў на чале арганізацыі 38 гадоў. А незадоўга да гэтага пайшоў з жыцця і яго намеснік і старшыня праўлення саюза **Эдуард Зарыцкі**.

Алена Атрашкевіч скончыла дзяржаўную кансерваторыю імя Рымскага-Корсакава, выкладала ў Маладзечанскім музкаледжы імя Агінскага і Мінскім дзяржаўным каледжы мастацтваў, дзе адкрыла новую спецыялізацыю «Мастацтва эстрады (спевы)».

Сярод яе вучняў – **Аляксандр Салаўёў, Жанет, Стэла, Дарыя, Дзмітры Сяргееў, Яўген Доліч**.

Алена Атрашкевіч – лаўрэат тэлеконкурсу «Хіт-момант», «Песня года Беларусі», узнагароджаная дыпломамі «Самы папулярны кампазітар» , «Лепшая песня конкурсу».

У 2015-м удастоеная звання «Чалавек года Міншчыны». У 2017-м ёй прысуджаная нацыянальная музычная прэмія «Ліра» і дыплом лаўрэата рэспубліканскага конкурсу ў намінацыі «Лепшы кампазітар года».

Аддзел інфармацыі.

## Стартаваў конкурс да Дня вады

ВІЛЕЙКА

Удзельнікам трэба зрабіць фотаздымак якога-небудзь вадаёма на Вілейшчыне і падзяліцца думкамі пра тое, як беражліва адносіцца да вады.

У конкурсе могуць удзельнічаць не толькі здымкі, зробленыя сёлета ў сакавіку, а і ў іншы час.

Працы прымаюць ад 4 да 21 сакавіка. Удзельнічаць могуць вучні школ, гімназій, ліцэяў.

Ваш фотаздымак трэба апублікаваць у суполцы інфармацыйнага цэнтра аб рабоце камунальных службаў. Кожная праца павінна суправаджацца кароткім апісаннем: што за вадаём на фота і як беражліва адносіцца да вады.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Вілейскія выратавальнікі – лепшыя на Міншчыне

ВІЛЕЙКА

Па выніках абласнога агляду-конкурсу Вілейская выратавальная станцыя стала лепшай у Мінскай вобласці.

Адным з галоўных крытэрыяў была праца асабовага саставу па недапушчэнні ахвяр у вадзе ў зоне дзеяння станцыі. Эфектыўнасць працы ацэньвалі не толькі па колькасці выратаваных жыццяў, але і па паказчыку папярэджання няшчасных выпадкаў.

Улічылі і тое, што патапленняў у 2018 годзе на Вілейшчыне стала менш, чым у 2017.

Як нам расказалі ў выратавальнай станцыі, лепшымі вілейскія выратавальнікі становяцца трэці год запар.

Сёлета начальнік станцыі **Ягор Роўда** атрымаў нагрудны знак «За заслугі». Адзначылі і рулявога матараста **Валерыя Варановіча** і актывістку Асвод **Лізавету Гракові**ч.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Жанчын узнагародзілі ордэнам Маці

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

Указ пра гэта **Аляксандр Лукашэнка** падпісаў 28 лютага.

Узнагародзілі:

**Алену Аўсянік**, работніцу Куранецкай СШ

**Вольгу Дземідовіч**, медсястру маладзечанскай ЦРБ

**Тацціяну Каласоўскую**, работніцу ТДА «Юлайн» з Маладзечна

**Раісу Кваціцнскую**, гаспадыню з Маладзечна

**Ганну Летку**, гаспадыню з Маладзечна

**Вольгу Навумчык**, работніцу Маладзечанскага камбіната хлебапрадуктаў

**Алену Рыдлевіч**, гаспадыню з Чысці

**Наталлю Усціновіч**, жывёлавода з Палачанаў

**Святлану Харэвіч**, гаспадыню з вёскі Дзясятнікі, што на Валожыншчыне.

Паводле сайта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

# Калекцыяную гісторыю беларускага мора

МЯДЗЕЛ

**Адным з самых непаўторных месцаў Беларусі, брэндам краіны з'яўляецца нацыянальны парк «Нарачанскі».**

Ён аб'ядноўвае чатыры дзясяткі азёр, а тэрыторыя прыроднай каштоўнасці характарызуецца разнастайнасцю рыбнага і птушынага свету, багатым наборам раслінаў і малым уплывам чалавека. Не дзіва, што на тэрыторыі парку месціцца некалькі заказнікаў.

**Усяго на тэрыторыі парку «Нарачанскі» 36 помнікаў прыроды рэспубліканскага і мясцовага значэння.**



Фота svaboda.org.

Пірс на Нарачы, 1937 год.




Форма значка нагадвае абрысы Нарачы. У значку ўдала спалучаюцца сіні і белы колеры.




Значок у форме цеплахода.




Больш просты значок у гонар турбазы возера Нарач.

Фотаздымкі з асабістага архіва.

Цэнтрам такога прыроднага цуда з'яўляецца возера Нарач. Самае вялікае возера на беларускіх прасторах не магло не паўстаць у аб'ектах калекцыянавання. Перадусім – у значках, якія былі асабліва папулярныя ў савецкія часы.

Мяне, аматара значкоў, захапіла нестандартная форма аднаго з іх, што нагадвае абрысы Нарачы (крайні злева). Удалае спалучэнне сіняй і белай эмалі на яго полі перадае лёгкі малюнак з надпісам уверсе «Нарач». Дзякуючы белай эмалі ясна бачыш ветразь і птушку на сініх хвалях. Такія азёрныя краявіды маляўнічыя і нагадваюць цэлае мора.

Вобраз, які перадае значок, характэрны для гэтага непаўторнага воднага аб'екта. Менавіта гэты значок і падштурхнуў для пошуку калекцыйнага матэрыялу, прысвечанага Нарачанскаму краю. І такога матэрыялу аказалася нямала. Назбіраўшы экспанатаў, вырашыў напісаць пра калекцыю артыкул.

## Сакральная мясціна

Нарач для навакольных вёсак заўжды была сакральнай мясцінай. Карміліся мясцовыя жыхары з возера, таму што глеба наўкол была пясчаная і неўрадлівая. Усё навакольныя вёскі лічыліся рыбацкімі, Нарач заўжды была суднаходнай. Месцам адпачынку возера стала толькі ў 20 стагоддзі.

Як курорт узбярэжжа Нарачы пачалі выкарыстоўваць яшчэ ў часы міжваеннай Польшчы, куды ўваходзіў увесь Мядзельскі раён. Аднак значна большае развіццё і прыцяг рэкрэацыйная тэндэнцыя атрымала ўжо ў пасляваенныя часы, калі рэгіён апынуўся ў складзе БССР.

Арганізаваны турызм на Нарачы з'яўляецца толькі ад 1950-х гадоў. У 1958 годзе будуюць турбазу «Возера Нарач», на тэрыторыі якой сёння размешчаны цэлы турыстычна-экскурсійны комплекс, функцыі якога спалучаны з санаторыем.

Курортны пасёлак Нарач – гэта восем санаторыяў, чатыры базы адпачынку, аўтакемпінг, два турыстычныя і адзін агратурыстычны комплексы, дзіцячы цэнтр медыцынскай рэабілітацыі.

Нарачанскі край – адна з самых папулярных і найбуйнейшых курортна-аздараўленчых зон у Беларусі, што сфарміравала свае абрысы яшчэ ў 1960-70-х гадах.

Дагэтуль працягваецца традыцыя суднаходства. Яхты часта курсіруюць па азёрных водах для знаёмства з найпрыгажэйшымі мясцінамі. На тэрыторыі курортнага пасёлка ёсць свой яхт-клуб «Нарачанскі». Сёння сплавіцца па блакітных водах Нарачы можна і на катамаране, які пакрысе знаходзіць прыхільнікаў падобнага адпачынку.

Усё, што тут адбываецца, адлюстраванае ў двух значках, прысвечаных турбазе на Нарачы, але аформленыя яны па-рознаму.

## Значкі ў гонар турбазы

Першы рознакаляровы значок у выглядзе судна з воднымі блакітнымі хвалямі. Зорка на ім адначасова з'яўляецца літарай «Т». Яна нагадвае стрэлку компаса, якая паказвае розныя бакі свету. Надпіс «Турбаза озеро Нарочь 1958-1978» дае магчымасць не толькі даведацца афіцыйны год адкрыцця месца адпачынку, але і год выпуску значка.

Побач з зоркай/літарай/стрэлкай маленькі зялёненькі паўкруг. Гэтым, верагодна, хацелі паказаць маленькую выспачку, што знаходзіцца на тэрыторыі возера. Арыгінальна выкананы як агульны малюнак значка, так і надпіс на ім.

Падобны значок – добры аб'ект калекцыянавання, калі тэматыка экспанатаў звязаная з турызмам ці воднымі локусамі.

**Значок аформлены ў выглядзе цеплахода, на якім можна пакатацца і паназіраць навакольныя краявіды, адчуўшы асалоду ад знаёмства з імі.**

Другі значок значна прасцейшы: квадратнай формы, цалкам блакітны, на якім праглядаюцца выявы ветразя і птушкі з дапамогай блакітнай эмалі. Ён, як і першы значок, проста і лаканічна перадае вобраз Нарачы і яго краявідаў. А надпіс «ТБ оз. Нарочь» на яго полі сведчыць пра турбазу, з якой і пачаўся разгалінаваны і шматпрофільны адпачынак на возеры.

Сёння нікога ўжо не здзівіш турбазай ці санаторыем, з'явіліся такія экзатычныя віды адпачынку, як відсёрфінг ці кайтынг, што пакрысе набіраюць абароты сярод актыўных турыстаў.

**Алесь КРЫЖЭВІЧ.**

*Працяг будзе.*



Наталля Астаніна гатуе каву.

# Лічым да 30 – і ў кубку 30 мілілітраў эспрэса

## У Маладзечне правялі курсы «Інклюзіўны барыста»

**2 сакавіка ў адным з гандлёвых цэнтраў Маладзечна пахла кавай і чуўся гук узбівання малака.**

МАЛАДЗЕЧНА

Кожны ахвотны мог пачаставацца тут бясплатнай кавай. Прапаноўвалі латэ, амерыкана, капучына, эспрэса.

Чацвёра маладых людзей з інваліднасцю з Маладзечна чатыры дні вучыліся гатаваць каву ў межах праекта «Інклюзіўны барыста». 2 сакавіка зладзілі дэгустацыю.

### Час такі, што людзі плацяць за каву па два-тры рублі

Стваральнік праекта **Аляксандр Аўдзевіч** і трэнер **Наталля Астаніна** прыехалі ў Маладзечна з Ліды, каб навучыць маладзечанцаў гэтай прафесіі:

– Мы ездзім па гарадах, навучаем моладзь з інваліднасцю, спрабуем стварыць кава-пойнты, дзе б яны змаглі працаваць. У Маладзечне пакуль не дамовіліся. Ніводзін гандлёвы цэнтр не хоча выдзеліць чатыры квадраты для кава-пойнта, – кажа Саша.

У Маладзечне Саша Аўдзевіч першы раз, таму мы пацікавіліся, як у нас у горадзе з безбар'ернасцю.

– Я шмат ганяў тут на вазку і хачу сказаць, што для райцэнтра тут усё нядрэнна: ёсць шмат устаноў, абсталяваных для людзей з інваліднасцю, пандусы. Бачна, што ўлады працуюць над гэтым.

На думку Сашы, прафесія барыста – запатрабаваная сёння. Надышоў такі час, калі ўсе гатовыя плаціць за каву па два-тры рублі. Убачылі ў амерыканскіх фільмах, як офісныя работнікі ходзяць з кубачкамі кавы. І падумалі: чым мы горшыя?

Кава – напой, да якога прывыкаеш, упэўнены Саша. Сам ён любіць розныя віды кавы. А з гатункаў – арабіку.

### Гісторыі барыста

Дзяўчына на вазку **Аксана Карніловіч** каваманкай сябе не лічыць. Але калі ў Таварыстве інвалідаў прапанавалі павучыцца, вырашыла паспрабаваць. Адразу не разглядала навучанне як магчымасць працаўладкавацца. Пасля курсаў пачала задумвацца пра гэта.

А вось маладзечанка **Ірына Крыўко**, якая мае праблемы са зрокам, прызнаецца, што каву вельмі любіць. Прыйшла на курсы, каб навучыцца гатаваць любімы напой. А яшчэ таму, што ёй было цікава: ці зможа чалавек, які дрэнна бачыць, працаваць барыста.

– Зразумела: калі нейкія аперацыі даводзяцца да аўтаматызму, іх можна рабіць і зусім без зроку. Напрыклад, ведаю, што трэба палічыць да 25 – і ў кубак нальецца роўна 30 мілілітраў эспрэса. Ступень узбівання малака можна вызначыць па характэрным гуку: калі ўзбіваць дастаткова, чуецца гук самалёта, які нібы ўзлятае.

Малявапь карыцай на каве Ірына таксама спрабуе:

> **– Я ж пяку дома торты, выкладаю ружу з крэму. Чаму я не магу намаляваць сэрца карыцай на каве?**

Пакуль вучылася гатаваць каву маладзечанка **Вікторыя Альшэўская**, яе двухгадовая дачка была з бабуляй і дзядулем. Жанчына ў дэкрэце. Да гэтага працавала дома зборшчыцай электрадэталяў.

Кажа, за гэтыя чатыры дні зразумела асновы прыгатавання кавы, навучылася, як правільна ўспеньваць малако.

– Наш трэнер Наталля Астаніна дала нам максімум уменняў за непрацяглы час, – кажа Віка.



Дзяўчаты прыйшлі пачаставацца кавай.

### У гатэлі з безбар'ернасцю пакуль не вельмі

Для Наталлі Астанінай Маладзечна – другі горад, дзе яна працуе трэнерам. Кажа, з вучнямі сваімі мае добрыя адносіны. Дапамагае прафесія педагога-псіхолага інклюзіўнай адукацыі, атрыманая ў Маскве.

– Прафесіі барыста я сама навучылася год таму і не думала, што яна так захопіць мяне, – прызнаецца Наталля.

На гэтыя некалькі дзён у Маладзечне Наталля мусіла наняць кватэру, бо гатэль не асабліва абсталяваны для інвалідных вазкоў.

### Не ўсе паверылі ў сябе

Куратарам праекта ў Маладзечне была валанцёр **Марыя Калеснікава**. Кажа, што праблем, каб знайсці месца для навучання, не было. Больш складанасцяў узнікла з тым, каб праінфармаваць людзей пра курсы.

Некаторыя маладыя людзі з інваліднасцю не верылі або ў свае магчымасці, або ў тое, што за чатыры дні сапраўды можна ўсё ж навучыцца прафесійна гатаваць каву.

**Пакуль у маладых людзей з інваліднасцю ў Маладзечне няма рэальнай магчымасці праявіць сябе ў працы барыста і зарабляць гэтым. Аднак усе яны, а таксама куратары і арганізатары спадзяюцца: такая магчымасць з'явіцца.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Новыя правілы футбола: будуць даваць карткі трэнерам і забароняць станавіцца ў сценку саперніка

Міжнародны савет футбольных асацыяцый IFAB 2 сакавіка зацвердзіў змены ў правілах гульні ў футбол. Радыкальных навін не будзе, але некаторыя новыя моманты з'явяцца і пачнуць дзейнічаць ад 1 чэрвеня, піша euroradio.fm.

Сярод такіх новаўвядзенняў – поўная забарона дотыку рукой да мяча гульцом, які забіў гол або стварыў галявы момант. Фолам будуць лічыць нават ненаўмысны дотык.

Заменены гулец цяпер будзе сыходзіць з поля праз бліжэйшую бакавую лінію і не павінны ісці да цэнтра. Гэта дазволіць эканоміць час.

Гульцы каманды атакі падчас выканання штрафных больш не змогуць станавіцца ў сценку, якую выстаўляе іх супернік. Мінімальная адлегласць павінна складаць метр. Сваю сценку паміж мячом і сценкай саперніка яны выстаўляць могуць.

Жоўтыя і чырвоныя карткі будуць выдаваць не толькі гульцам, але і трэнерам, у тым ліку за непрыстойныя паводзіны. Калі мяч патрапіць у арбітра, то будуць прызначаць спрэчны мяч.

**Паводле euroradio.fm.**

## Спаборніцтвы па танцавальным спорце прайшлі ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

3 сакавіка ў Смаргоні правялі рэспубліканскія спаборніцтвы па танцавальным спорце. Удзельнікі мерапрыемства выступілі на сцэне раённага Цэнтра культуры. Свае майстэрства яны паказвалі не толькі членам журы, але і гледачам у зале, сярод якіх былі таты і мамы юных танцораў.

Пасля заканчэння турніру журы падвяло вынікі. Хлопчыкаў і дзяўчынак узнагародзілі медалямі, дыпломамі, самым маленькім уручылі салодкія падарункі.

**Юры ЯНУШКЕВІЧ, паводле shliah.by.**

## ФК «Смаргонь» прайграў «Лідзе»

СМАРГОНЬ

3 сакавіка ФК «Смаргонь» у рамках перадсезоннай падрыхтоўкі да чэмпіянату на дамашнім стадыёне (ДЮСШ па футболе) прымаў «Ліду». Сустрэча завяршылася мінімальнай перамогай гасцей – 0:1.

Гэта першая параза каманды ў перадсезоннай падрыхтоўцы.

Наступны матч ФК «Смаргонь» правёў 7 сакавіка на выездзе ў Смалявічах, дзе пазмагаўся сіламі з мясцовай камандай.

А ўжо 10 сакавіка заўзятары клуба зноў убачаць дамашнюю гульню чырвона-чорных. У гэты дзень у госці да смаргонцаў наведаецца наваполацкі «Нафтан».

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**

## Хакеіст «Дынама-Маладзечна» Багдан Зазон правёў 200 матч у джэрсі «зуброў»

МАЛАДЗЕЧНА

Не зусім звычайным стаў для каманды матч супраць ХК «Ліда», які правялі 2 сакавіка на дамашняй арэне.

Абаронца **Багдан Зазон** правёў двухсоты матч у джэрсі «Дынама-Маладзечна» ў рэгулярных чэмпіянатах Рэспублікі Беларусь.

А «бела-сінія» ў гэты дзень выйгралі ў гасцей з лікам 5:3.

**Паводле vk.com/ hcdinamomolodechno.**

## У дзіцячым аздараўленчым цэнтры «Надзея» прайшоў турнір па валейболе

ВІЛЕЙКА

У дзіцячым аздараўленчым цэнтры «Надзея» 2 сакавіка правялі 17 штогадовы турнір па валейболе сярод мужчынскіх каманд устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый Вілейскага раёна. Ён быў прымеркаваны да 25-годдзя з дня адкрыцця дзіцячага цэнтра «Надзея».

Перамагла ў турніры каманда «Энерганагляд РУП Мінскэнерга «Вілейскае МРА». На другім месцы – ГУП «Вілейскае ЖКГ». Трэцюю ступень заняў «Першы беларускі». А каманда «Надзеі» апынулася на чацвертым месцы.

**Аддзел інфармацыі.**



Мікалай Хадасевіч.

# Журналіст Хадасевіч пойдзе на выбары старшыні Беларускай федэрацыі футбола

**Мікалай Хадасевіч, чыё дзяцінства прайшло ў Беразінскім пад Маладзечнам, вырашыў узначаліць Асацыяцыю БФФ.**

«27 сакавіка адбудзецца справаздачна-выбарная канферэнцыя Асацыяцыі БФФ. **Сяргей Румас** сыходзіць. У нас выбары на носе. **Віталь Кутузаў** выявіў жаданне ўдзельнічаць у гэтай перадвыбарнай кампаніі. А больш ні пра адну кандыдатуру не заяўлена. Магчыма, мы даведаемся пра гэтых людзей у бліжэйшы чацвер, калі будзе апошні тэрмін падачы дакументаў.

Дык вось. Я пайду на выбары АБФФ. З вашага дазволу і з вашай падтрымкай. Калі вы будзеце актыўна лайкаць і падпісвацца на мой канал. Разам зробім крутую перадвыбарную праграму.

Першы тэзіс – давайце зробім прэм'ер-лігу, пра якую даўно гаворым. АБФФ увесь час адхрышчваецца ад гэтага, прапаноўваючы ўсё рабіць клубам. Клубы нашы самастойна нічога зрабіць не могуць. Больш за 80 працэнтаў клубаў інертна прапальваюць жыццё. У іх няма ніякай філасофіі, ніякага імкнення. Трэба сабраць усіх, пазначыць і запусціць прэм'ер-лігу. Прычым яна не будзе па канонах расійскай. У нас іншая гісторыя.

Усё, што адбываецца ў Беларусі, не мае аналагаў у свеце. Тлумачу на пальцах. «Славія», «Гомель» і «Нафтан». Іх асноўныя спонсары з адной галіны. Як яны могуць змагацца адзін супраць аднаго? Збіраем усе буйныя прадпрыемствы Беларусі, якія падтрымліваюць футбол. Складаем бюджэт прэм'ер-лігі.

> **Дэмакратычным шляхам прааналізуем, колькі камандаў павінна быць у лізе. Кожны клуб атрымлівае стабільны гарант у пачатку года. Гэта выключае варыянты банкруцтва і зняцце з чэмпіянату.**

Далей уводзім мяжу зарплат, каб грошы не мантачыць. Калі хочаце быць круцейшымі, чым іншыя, навучыцеся зарабляць. Мы даём толькі гарантыю, далей працуй сам на сваю карысць. Мы павінны паказаць футбол у найлепшым выглядзе, чаго не адбывалася даўно. Прэм'ер-ліга гэта зробіць», – заявіў Хадасевіч.

Даведка «РГ»: Мікалаю Хадасевічу 35 гадоў. Чытачам «РГ» ён вядомы сваімі публікацыямі ў нашай газеце на мяжы 1990-2000 гадоў.

**Паводле by.tribuna.com.**

## Маладзечанскі футбольны клуб стаў юрыдычнай асобай

МАЛАДЗЕЧНА

**Добрая навіна паступіла ад футбольнага клуба «Маладзечна». Упершыню за некалькі гадоў клуб стаў юрыдычнай асобай.**

Летась у снежні Маладзечанскі райвыканкам зарэгістраваў ДУ «Футбольны клуб «Маладзечна-2018». Дырэктарам клуба стаў **Арцём Ганчарык**.

18 лютага каманда ўжо выйшла з адпачынку. У адрозненне ад папярэдніх гадоў, рыхтавацца да сезона каманда пачала значна раней. Цяпер ідуць масавыя прагляды маладых гульцоў і трэніроўкі. Сярод іншых, у іх удзельнічаюць і выхаванцы Маладзечанскай ДЮСШ-4 – **Данііл Севярын**, **Глеб Гулецкі**, **Камран Дамірчыеў** і **Дзмітры Далжанкоў**.

На сёння клуб знаходзіцца ў патэнцыйным спісе ўдзельнікаў другой лігі-2019, а некаторыя з гарадскіх прадпрыемстваў ужо сталі спонсарамі каманды.

Падрабязнасці чытайце ў наступных нумарах.




**Аддзел інфармацыі.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Часовае падняцце вады ў вадаёмах у выніку раставання снегу або вялікіх дажджоў.
3. Умоўны знак для перадачы паведамлення, распараджэння, каманды.
4. Пад'ёмная машына для перамяшчэння пасажыраў і грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах.
6. Цесць вялікага князя Шварна. Княжыў у 1195-1263 гадах.
7. У Мексіцы гэта жывёліна лічыцца транспартным сродкам. Каб ім кіраваць, неабходна мець спецыяльны дазвол. У гэтым дакуменце абавязкова павінна быць фота гаспадара і жывёліны.
8. Дарожная скрынка з векам і ручкай для рэчаў, багажу пасажыра, зробленая са скуры, дэрмаціну, фібры ці кардону.
13. Калі кветкі прыгожа складзеныя.
14. Унікальная рэлігія, распаўсюджаная ў пэўны перыяд існавання Рэчы Паспалітай.
15. Сын дачкі або сына.
16. Краіна, з якой ваявала ВКЛ у час Паўночнай вайны.
17. Лёгкая лодка, выдзеўбаная з дрэва.
18. Пасяленне, пражыванне мужчыны пасля жаніцьбы ў сям'і жонкі.
19. Ганарлівыя адносіны.
20. Прагны, сквапны.
21. Сястра шыпшыны.
23. Гэта катэгорыя людзей у час Сярэднявечча павінна была насіць жоўтыя ці зялёныя капелюшы. Каб іншыя бачылі, што з імі не варта рабіць камерцыйныя здзелкі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Лёгкая дымка, якая зацягвае, пакрывае.
5. Гадавіна з дня смерці.
8. Рэйкавая дарога, прызначаная для руху паяздоў.
9. Які мае невялікі цяжар, мала важыць.
10. Самая распаўсюджаная марка аўтамабіляў нью-ёркскага таксі.
11. Адзін з самых распаўсюджаных аб'ектаў навуковых даследаванняў.
12. Будынкі ў Ерэване пабудаваныя з каменя з ружовым адценнем. Таму часам горад называюць .... .
13. Асноўны спосаб абароны ў зайцаў.
14. Калі не прама, не назад і не ўправа.
18. Круглыя або іншай формы невялічкія прадметы з бурштыну, шкла з дзірачкай пасярэдзіне для працягвання ніткі.
22. Фрукт, які называюць сімвалам Арменіі. Ніжняя частка сцяга краіны сімвалізуе менавіта яго.

## Адказы на крыжаванку з №8

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Арарат. 6. Рэсурсы. 7. Клёкат. 8. Шлях. 9. Серп. 11. Шкала. 12. Корак. 13. Душа. 15. Садавіна. 16. Павук. 21. Скронь. 22. Музыка. 25. Шахматы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Сасна. 2. Жэўжык. 3. Ганна. 5. Сакратар. 8. Шарак. 9. Сват. 10. Кіфара. 14. Кавалер. 16. Пудзіла. 17. Шавец. 18. Дэльфін. 19. Кавярня. 20. Коміксы. 23. Зніч. 24. Капуста.



● ГАРАСКОП 8-14 САКАВІКА

**АВЕН.** Спыніцеся і падумайце, ці тое вы робіце, што вам на самой справе трэба, ці адпавядае ваш выбар вашым сапраўдным жаданням і вашаму духоўнаму шляху, ці прыносіць вам задавальненне ваша жыццё. Падчас пошуку адказу, свет вакол вас літаральна замрэ, даючы вам магчымасць лепей паглыбіцца ў сябе. Гэтак жа будуць дадзеныя і сілы, якія дазволяць зрабіць неабходныя перамены.

**ЦЯЛЕЦ.** Дазвольце падзеям развівацца самім сабой і не старайцеся плыць супраць цячэння, спрабуючы ў што б там ні было павярнуць раку назад. Так вы зэканоміце ўласныя сілы, пазбегнеце шматлікіх няўдач, а вынік такой кантраляванай бяздзейнасці вас прыемна здзівіць.

**БЛІЗНЯТЫ.** Добра было б, каб вы пастараліся ў гэты час не нагружаць сябе рознымі справамі, а прысвяцілі час адпачынку ці няспешнаму прывядзенню спраў у парадак. Бо вы мастак прыдумваць сабе перашкоды і дадатковыя задачы, а потым іх жа і пераадольваць.

**РАК.** Настаў час прымаць рашэнні, ад якіх будзе залежаць усё ў вашым далейшым жыцці. І не прыслухоўвайцеся да меркавання іншых, інакш гэта будзе азначаць, што вы перадалі кіраванне сваім жыццём трэцяй асобе.

**ЛЕЎ.** Дні не вельмі простыя, назапасілася маса нявырашаных пытанняў, розных негатыўных аспектаў, якія не патрабуюць адкладу. У вас ёсць два спосабы вырашэння сітуацыі – ці кінуць усё, адмяніць прызначаныя планы. Альбо сабраць свае сілы і дзейнічаць выразна, у адпаведнасці з планам і распарадкам.

**ДЗЕВА.** Не прыдзірайцеся па дробязях да сваіх спадарожнікаў жыцця і не спяшайцеся ставіць крыж на вашых адносінах. Хутка ўсё наладзіцца, толькі дайце адзін аднаму час.

**ШАЛІ.** Некаторым з вас лёс рыхтуе падарунак: вы сустрэнеце чалавека, пра якога нядаўна ўспаміналі. І сустрэча стане прыемным сюрпрызам для вас.

**СКАРПІЁН.** Калі вы сумуеце ў адзіноце, то вясна выправіць гэта становішча. Трэба толькі падрыхтавацца. Злёгку змяніце свой стыль, і вынік доўга чакаць не давядзецца.

**СТРАЛЕЦ.** Не займайцеся самаедствам і не злуйцеся, калі штосьці перастане атрымлівацца. Не прыніжайце сябе, добра думайце пра сябе, і вы даб'яцеся вялікага поспеху.

**КАЗЯРОГ.** Хтосьці з вашага акружэння ў сваіх роздумах дасць вам падказку ўнікальнага вырашэння даўняй праблемы. Будзьце ўважлівыя. І будзьце вышэй за непрыемныя дробязі і не забывайце пра пачуццё гумару – яно ператворыць трагедыю ў камедыю і засцеражэ ад сварак.

**ВАДАЛЕЙ.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, як бяссонніца, нервовыя цікі, прастудныя захворванні, праблемы з ціскам, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.

**РЫБЫ.** Нічога не адкладвайце на потым. І сачыце за здароўем. Памятайце, што месяц перад днём нараджэння і месяц пасля ваш арганізм найбольш уразлівы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 4 | | | | 6 | | 1 | |
| | | | 2 | 9 | | | | |
| | | | 7 | | 1 | 4 | 2 | |
| | | 5 | | | 9 | | | 4 |
| 6 | | | 1 | 3 | | 2 | | |
| | | | 8 | | 7 | | | 3 |
| | | 6 | 4 | | 3 | 8 | | |
| 8 | | | | 6 | 2 | | | |
| | | 7 | | 1 | | | 3 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Ці шмат магчымасцяў у жыхароў рэгіёна на інвалідных вазках атрымаць адукацыю пасля школы? З якімі цяжкасцямі яны сутыкаюцца і ці ёсць станоўчы досвед?

● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Жонка прачнулася і кажа:

– Трэба ўзважыцца.

Муж уважліва глядзіць на яе і кажа:

– Гадзіннік таксама здымі.

Жонка:

– Навошта гадзіннік здымаць?

Муж:

– Час сягоння цяжкі.



## Як правялі «Масленіцу» ў Ашмянах

АШМЯНЫ

Масленічны тыдзень на Ашмяншчыне адкрылі блінамі, шашлыкамі і прысмакамі. Спалілі пудзіла Зімы, прывіталі Вясну .

Галоўнае дзеянне разгарнулася на сцэнічнай пляцоўцы побач з музеем імя Багушэвіча, цалкам задзейнічалі плошчу і сквер. Вулічны тэатр «Вір» адкрыў масленічную праграму.

Былі рамесныя рады, гандлёвыя палаткі з рознымі прысмакамі ўсходняй і беларускай кухні, гарбатай, упрыгожаннямі, цацкамі, таварамі ручной работы.

**Паводле osh.by.**

## Вясновым сонейкам сагрэта «Рэгіянальная газета»



**Падпішыцеся на другі квартал!**
**Падпісацца на «РГ» можна:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 9 сакавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 7-8 м/с




Усход 7.42
Захад 19.03
Даўжыня дня 11.25

Усход 9.07
Захад 22.04
Месяц расце



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Які ваш любімы сімвал Беларусі?



**Аляксандра Замараева, у дэкрэтным адпачынку, Астравец:**

– Любімы сімвал – бусел. Думаю, толькі ў нас можна пабачыць такую прыгажосць. Калі ўсё поле бы ўсыпанае бусламі. А яшчэ я шматдзетная маці, у мяне трое сыноў. Таму бусел – мой сімвал шчасця. А сама краіна асацыюецца з бульбай.



**Аляксандр Казакевіч, шынамантажнік, Маладзечна:**

– Пагоня. А яшчэ Беларусь для мяне – гэта родная прырода – палі, рэкі і асабліва нашы лясы. Вясной, летам і часткова восенню я амаль кожныя выхадныя прападаю ў лесе хаця б на дзянёк. Толькі гуляю, бо збор грыбоў і ягад мяне ніколі не прыцягваў.



**Наталля Матарас, доктар-тэрапеўт, Вілейка:**

– Беларусь – гэта мноства рэк і азёр, зялёныя лясы. Нездарма ж яе яшчэ называюць «сінявокая». Але дранікі таксама нагадваюць нашу краіну. Любімы сімвал – вышыванкі. Прыемна, што іх цяпер часта сталі выкарыстоўваць у элементах дэкору.



**Настасся Зямцова, повар у дзіцячым садку, Вілейка:**

– Краіна асацыюецца з нашымі азёрамі. На возеры можна адпачыць ад гарадской мітусні, падыхаць свежым паветрам, памарыць пра нешта запаветнае або проста адпачыць з сябрамі.



**Алеся Трасцянка, навучэнка каледжа, Маладзечна:**

– Бусел, які ляціць, з шырокімі светлымі крыламі. Бо краіна светлая, чыстая, прасторная. Плюс гэтыя птушкі жывуць парамі, яны дружныя, сямейныя, клапатлівыя. Як і беларусы.



**Аляксей Толак, інжынер, Мядзел:**

– Бульба. А ўвогуле ў мяне чамусьці краіна выклікае ўяўленне жанчыны з дзіцем, якая гуляе па вуліцы. Проста жыў у Расіі, там такога няма, усюды закрытыя дзверы. А тут людзі менш баяцца.



**Настасся Субач, эканаміст, Вілейка:**

– Васілёк. Не ведаю, чаму менавіта ён. Блакітнае неба, сонечнае поле, бязмежнасць, свабода, дзяцінства. А сама краіна асацыюецца з такой якасцю, як упартасць.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№10 (1245) 8.03.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 373. Падпісана ў друк у 9.00 7.03.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.